

№ 26 (43)
Ліпень 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года



## Магдалену з Польшчы зразумеюць і ў Беларусі

***Пераможцай 10-й Усяпольскай алімпіяды па беларускай мове стала Магдалена Марціновіч, якую разам з іншымі школьнікамі па традыцыі ўшаноўвалі ў Мінску ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.***

Такая алімпіяда школьнікаў садзейнічае развіццю кантактаў і супрацоўніцтву паміж моладдзю абедзвюх краін. Яна праводзіцца ў Польшчы з 1994 года па ініцыятыве таварыства "Польшча–Беларусь" пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Польшчы і Варшаўскага універсітэта. Узнагароды дзецям уручалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Тадэвуш Паўляк і пасол па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны. Быў уручаны прыз ад імя Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Польшчы Паўла Латушкі, падарункі ад гарвыканкама, таварыства "Радзіма" і іншых устаноў і арганізацый. Падарунак ад рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" атрымала вучаніца з Беласточчыны Ева Данеля Дудзіч.

Да пераможцаў звярнуліся старшыня таварыства "Польшча–Беларусь" прафесар Баляслаў Хмялінскі, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі. На сустрэчы спявалі і танцавалі польскія школьнікі, паказвалі моды беларускія навучэнцы.

*Ірына КАЗЛОВА, "Голас Радзімы"*

*Фестываль*

*Напрыканцы мая бягучага года адбылася, на мой погляд, унікальная падзея ў культурным жыцці Беларусі. Дзякуючы намаганням грамадскага аб'яднання "Беларускі фонд культуры" ў перыяд з 27 мая па 6 чэрвеня ў Францыі знаходзілася вялікая група беларускіх народных майстроў. Шаснаццаць майстроў народнай творчасці, у тым ліку шэсць студэнтаў факультэта народнай культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка, а таксама ансамбль народнай музыкі і танца "Рэй" гэтай навучальнай установы, па запрашэнні французскіх сяброў з дабрачыннай грамадскай арганізацыі "Асацыяцыя ALICE" прынялі ўдзел у фестывалі народнай творчасці, які адбыўся ў рэгіёне Брыянэ паўднёвай Бургундыі ў Францыі. Мабыць, сапраўды ў сучаснай гісторыі Беларусі творчасць нашых народных майстроў за межамі краіны так шырока была прадстаўлена ўпершыню.*

## Нашы – у Бургундыі




Фестываль, у якім нам пашчасціла прымаць удзел, праводзіўся ўжо ў дзясяты раз і быў арганізаваны Саюзам майстроў народнай творчасці гэтага рэгіёна. У кожным з папярэдніх фестываляў удзельнічалі прадстаўнікі народнага мастацтва з іншых краін. У 2003 годзе гэта былі майстры з Алжыра, а сёлета з Беларусі.

Цікавая, на мой погляд, форма правядзення самога фестывалю народнай творчасці заслугоўвае таго, каб аб гэтым расказаць трохі падрабязней.

Фестывалі арыентаваны на турыстаў і традыцыйна адбываецца ў час, калі ў каталіцкай Францыі шырока адзначаюцца "Зялёныя святы". Дэвіз гэтага фестывалю – "Народная творчасць і турызм". У гэтыя дні вялікая колькасць французаў, а таксама замежных турыстаў накіроўваецца з поўначы на поўдзень, з усходу на захад краіны, каб наведаць родных і блізкіх, адпачыць і адначасова наведаць гістарычныя помнікі і мясціны, якімі так багата Францыя. Усе шляхі гэтых вандровак пралягаюць менавіта праз мясцовасць Брыянэ, дзе і адбываецца фестываль.

Дзякуючы шырокай рэкламе і адпаведнай інфармацыі на дарогах, многія з вандроўнікаў становяцца ўдзельнікамі свята народнай творчасці, наведваючы майстэрні (атэлье) мясцовых майстроў – мастакоў, якіх у рэгіёне знаходзіцца некалькі дзясяткаў. У гэтыя дні дзверы майстэрняў шырока адчынены з раніцы да позняга вечара. Кожны жадаючы можа наведаць іх, пазнаёміцца з творчасцю мастака, паназіраць і нават паўдзельнічаць у творчым працэсе, набыць вырабы, якія спадабаліся. Трэба адзначыць, што гэтай магчымасцю ўжо традыцыйна карыстаюцца тысячы турыстаў.

Менавіта для ўдзелу ў такім мерапрыемстве і былі запрошаны нашы майстры народнай творчасці.

Мяне вельмі ўразіла, з якой зацікаўленасцю шматлікія наведвальнікі майстэрняў знаёміліся з творчасцю мастакоў, з творчым працэсам. І вельмі прыемна, што пры гэтым французскія майстры з вялікім энтузіязмам і захапленнем знаёмілі наведвальнікаў са сваімі гасцямі – калегамі з Беларусі.

У час фестывалю нашы народныя майстры мелі магчымасць прадэманстраваць сваё майстэрства і грунтоўна пазнаёміцца з творчасцю французскіх калег, пасябраваць з імі, абмяняцца вопытам па захаванні і развіцці народнай мастацкай традыцыі. Гэта стала магчымым таму, што французскія калегі не толькі шырока адчынілі для гасцей з Беларусі дзверы сваіх майстэрняў, стварылі ім выдытныя ўмовы для творчай працы і для прэзентацыі свайго майстэрства, твораў, але і гасцінна прынялі іх у сваіх сем'ях. Трэба адзначыць, што няведанне мовы не перашкодзіла устанаўленню цёплых сяброўскіх адносінаў паміж беларускімі і французскімі калегамі. Усё гэта, безумоўна, спрыяла поспеху мерапрыемстваў, якія адбываліся ў гэтыя дні, стварэнню незвычайнай, эмацыянальна ўзнёслай атмасферы ўзаемнай павагі і дружбы, якая суправаджала нас да самага развітання з гаспадарамі.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь*

# Зайздросны талент журналіста




***Кафедра беларускай лінгвістыкі і міфалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта выказваецца ў падтрымку цыкла кніг і артыкулаў доктара філалагічных навук Алены Аляксандраўны Яскевіч «Шляхамі культурна-духоўнага адраджэння», вылучанай на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.***

Цыкл кніг і артыкулаў Алены Аляксандраўны Яскевіч «Шляхамі культурна-духоўнага адраджэння» – унікальная з'ява ў гісторыі беларускай культуры. Яна раскрывае этапы станаўлення беларускай пісьменнасці і друку, уздымае вялікі пласт айчыннай культуры ў адным з перыядаў яе вяршынных дасягненняў – IX–XVIII стст. Цыкл грунтоўных прац А. А. Яскевіч абапіраецца на навейшыя навуковыя ідэі і тэорыі, своеасабліва яднае паміж сабою навуку з рэлігіяй. Сапраўды, адраджэнне высокадухоўных ідэалаў грамадства, спасціжэнне культуры маральнага самаўдасканалення чалавека, выпраўленне нораваў, з якімі ўсё цяжэй даводзіцца спраўляцца сучаснай цывілізацыі, узыходжанне псіхалогіі на ярусы экзістэнцыявання духу, як і вырашэнне многіх іншых тэарэтычных і практычных праблем сучаснасці, немагчыма без інтэгравання навукі з рэлігіяй (як навукі аб сусвеце), што ёсць чаканы знак часу і прыкмета вышэйшай сталасці сённяшняга чалавечага пазнання.

У працах А. А. Яскевіч айчынная сярэднявечная філалагічная і духоўная культура набывае статус аб'екта ўсебаковага вывучэння і разглядаецца ў яе сувязі з гістарычным быццём этнаса. Вяршынныя дасягненні беларускага пісьменства паўстаюць у асобах яго найбольш выдатных прадстаўнікоў, што дазваляе аўтару кніг і артыкулаў вызначыць кодавыя характарыстыкі нацыянальнага менталітэту з яго карэляцыйнай праекцыяй на пэўнае палажэнне беларускай культуры – памежнаўскраіннае.

Цэнтральны аб'ект адлюстравання ва ўсіх працах А. А. Яскевіч – старажытная беларуская культура ў гістарычных падзеях і асобах яе стваральнікаў і ідэйных носьбітаў. Аўтар адкрывае новыя імёны ці аднаўляе, вяртае з небыцця даўно забытыя. Усе працы А. А. Яскевіч вызначаюцца выключным багаццем матэрыялу, які ў многім уведзены ўпершыню. Разгляд сукупных з'яў медыявістыкі адбываецца ў спалучэнні старажытных вучэнняў эпохі Сярэднявечча з сучаснымі рознагалінаванымі тэорыямі: ноасфернай, «філасофіяй цэласнасці», сінергетыкай. Упершыню ў кнігах і артыкулах А. А. Яскевіч старабеларуская культура ў асобах яе стваральнікаў і носьбітаў паўстае як скразная рэцэпцыя хрысціянскай асветы, што мае важнейшае не толькі навуковае (у тым ліку для багаслоўя як навукі), але і практычна-выхаваўча-асветнае, патрыятычна-адраджэнцкае значэнне.

А. А. Яскевіч валодае зайздросным талентам журналіста, папулярызатара сваіх ідэй. Яе кнігі і артыкулы чытаюцца з велізарнай цікавасцю, у іх прысутнічае значны мастацкі элемент, журналісцкі пошук.

Праца А. А. Яскевіч «Шляхамі культурна-духоўнага адраджэння» заслугоўвае быць адзначанай Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь па намінацыі «журналістыка».

*Загадчык кафедры беларускай лінгвістыкі і міфалогіі, доктар філалагічных навук, прафесар*
***Т. І. Шамякіна.***

Члены кафедры: доктар філалагічных навук, дацэнт **І. В. Казакова**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт **У. А. Навумовіч**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт **Л. У. Хрышчановіч**, кандыдат філалагічных навук, выкладчык **М. К. Чаеўская**, кандыдат філалагічных навук, выкладчык **В. Я. Яфімчык**, ст. выкладчык **Т. М. Смольская**, выкладчык **А. М. Муравіцкая**.

**Фестываль**

# Нашы – у Бургундыі!

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Беларускае народнае мастацтва было прадстаўлена амаль усімі традыцыйнымі жанрамі. Гэта кераміка, саломапляценне, бісерапляценне, лакавая мініяцюра, роспіс на шкле, выцінанка і г.д. Аб тым, што народнае мастацтва Беларусі было ўспрынята ў Францыі з захапленнем, сведчыць той факт, што многія вырабы нашых майстроў былі раскуплены наведвальнікамі ўжо ў першы дзень свята і, па просьбе арганізатараў, гэтыя вырабы былі пакінуты часова ў майстэрнях у якасці экспанатаў. Асаблівае захапленне выклікалі лакавыя мініяцюры Алега Патоцкага і Любові Мялешка з Мінска, кераміка Канстанціна Цітова з Мінска і Міласлава Раманоўскага з Івянца, вырабы з саломкі Алены Рудакоўскай з Капыля і Святланы Паплаўскай з Ліды, выцінанкі Алены Ходзікавай з Полацка, а таксама вырабы Галіны Дзенісені з Баранавіч, Веры Пярмінавай і Ірыны Мамановіч з Мінска. Вельмі карысным быў удзел у фестывалі і для студэнтаў факультэта народнай культуры Беларускага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, чые вырабы таксама карысталіся вялікім поспехам.

Але, на мой погляд, галоўным станоўчым вынікам фестывалю з'яўляецца тое, што за гэты час гаспадары і іх беларускія калегі пасябравалі, адбыўся карысны абмен творчымі дасягненнямі, тэхналогіямі, што несумненна будзе спрыяць далейшаму развіццю народнай мастацкай творчасці як у Беларусі, так і ў Францыі.

Ў тыя ж дні адбываліся канцэрты ансамбля музыкі і танца «Рэй», выступленні якога таксама праходзілі з вялікім поспехам. Заўсёды пасля канцэртаў гледачы падыходзілі да нас і выказвалі сваё захапленне адным словам – «маніфік». Думаю,



што перакладу ў гэтым выпадку не патрабуецца. Асабліва запомніўся канцэрт, які быў наладжаны спецыяльна для французскіх мастакоў, іх родных і блізкіх, якія прымалі ў сваіх сем'ях беларускіх калег. Без перабольшвання можна сказаць, што гэта была сапраўдная маніфестацыя беларуска-французскай дружбы. Выкананне кожнага нумара праграмы суправаджалася шквалам апладысментаў, а пасля яе заканчэння гледачы доўга не адпускалі артыстаў са сцэны.

Усяго ансамблем «Рэй» было дадзена 13 канцэртаў, падчас якіх збіраліся сродкі на аказанне дабрачыннай дапамогі шпіталям і дзіцячым дамам з рэгіёнаў Беларусі, найбольш пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы.

Дарэчы, дабрачынная асацыяцыя ALICE, якая была арганізатарам гэтай паездкі, ужо на працягу больш як дзесяці гадоў збірае і дастаўляе ў Беларусь у якасці дабрачыннай дапамогі медыкаменты і медыцынскае абсталяванне, так неабходныя для нас. За гэтыя гады асацыяцыяй было пастаўлена ў Беларусь лекаў і абсталявання на некалькі соцен тысяч даляраў. Але, на маю думку, галоўнае тое, што значная частка гэтых сродкаў была сабрана менавіта на канцэртах беларускіх мастацкіх калектываў, якіх пабывала ў Францыі па запрашэнні асацыяцыі ўжо больш дзесяці, а тысячы французаў, дзякуючы гэтаму, пазнаёміліся з дасягненнямі і традыцыямі беларускай культуры, сталі сапраўднымі сябрамі нашай краіны. Мы ўпэўненыя, што і пасля канцэртаў ансамбля "Рэй", а таксама ўдзелу беларускіх майстроў у фестывалі народнай творчасці ў Францыі, стала значна больш сяброў і прыхільнікаў нашай Беларусі.

***Леанід БАРОЎСКІ,***
***намеснік старшыні ГА «Беларускі фонд культуры»***

***На фота: Хлоэ Вальтэр у сваёй майстэрні***

***Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» выказвае шчырую падзяку асацыяцыі ALICE, старшыні асацыяцыі сп. Андрэа Пленье і яе намесніку сп. Сюзанн Люмінэ, а таксама старшыні Саюза мастакоў рэгіёна Брыанэ сп. Жану-Шарлю Дуайену за тое, што менавіта яны зрабілі ўсё, каб мы мелі магчымасць дастойна прадставіць у Францыі наша народнае мастацтва. Ад імя ўсіх удзельнікаў паездкі выказваем шчырую падзяку таксама ўсім французскім сябрам, якія сардэчна прымалі нас у сваіх дамах, ахвяруючы ўласным часам, нягледзячы на паўсядзённыя клопаты, якіх заўсёды хапае, зрабілі ўсё дзеля таго, каб мы адчувалі ў іх сем'ях сябе ўтульна – як дома.***

# Рыба, мяса, малако пройдуць праверку

Навакольнае асяроддзе становіцца ўсё больш небяспечным для здароўя чалавека. Прычым і сам чалавек нямала спрыяе гэтаму. Вытворчасць і выкарыстанне новых рэчываў з уласцівасцямі стойкіх арганічных забруджвальнікаў выклікае вялікую заклапочанасць сусветнай супольнасці. І невыпадкова. Гэтыя забруджвальнікі вельмі небяспечныя для чалавека і яго патомства. Яны надзвычай таксічныя з пункту гледжання іх мутагеннага, канцэрагеннага, генатаксічнага эфектаў.

Сітуацыя ўскладняецца і тым, што медыцынскі аспект уздзеяння стойкіх арганічных забруджвальнікаў праяўляецца ў другім, трэцім і далейшых пакаленнях. Па назіраннях вучоных, перыяд распаду гэтых рэчываў складае 8 гадоў. Інакш кажучы, тое, што зараз назапашвае наш арганізм, адаб'ецца на здароўі нашых нашчадкаў, ствараючы рэальную пагрозу будучым пакаленням чалавецтва.

17 мая гэтага года ўступіла ў сілу Стакгольмская канвенцыя, галоўнай мэтай якой з'яўляецца ахова навакольнага асяроддзя ад уплыву стойкіх арганічных забруджвальнікаў. Яна ўключае 12 рэчываў, небяспечных для чалавека, сярод якіх хлорарганічныя пестыцыды, рэчывы, што прымяняюцца ў прамысловасці, і пабочныя прадукты вытворчасці.

Рэспубліка Беларусь з'яўляецца адной з 50 краін, якія ўзялі на сябе абавязкі па выкананні палажэнняў Стакгольмскай канвенцыі.

Як адзначыў намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі В. І. Малішэўскі, зараз Мінсельгасхарчам праводзіцца інвентарызацыя па вызначэнні колькасці стойкіх арганічных забруджвальнікаў у назапашаных непрыгодных пестыцыдах. А Інстытутам праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў рамках дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы «Экалагічная бяспека» пачатая і вядзецца работа па інвентарызацыі поліхлараваных біфенілаў. Гэтыя дзеянні накіраваныя на забеспячэнне бяспечнага захоўвання стойкіх арганічных забруджвальнікаў.

Так, Міністэрства прыродных рэсурсаў пры фінансавай падтрымцы дацкага экалагічнага агенцтва ажыццяўляе праект па пераўпакоўцы састарэлых пестыцыдаў і паляпшэнні ўмоў іх захоўвання з тым, каб прадухіліць пранікненне шкодных рэчываў у навакольнае асяроддзе. На сённяшні дзень пераўпакавана 1036 т песцыцыдаў, у тым ліку ў Слуцкім раёне – 300 т, у Зэльвенскім – 431 т, Смаргонскім – 305 т.

Пры фінансавай падтрымцы Мінпрыроды вядзецца будаўніцтва комплексу па перапрацоўцы і захаванні прамысловых таксічных адходаў у Чачэрскім раёне Гомельскай вобласці. Гэта дазволіць вырашыць праблему размяшчэння адходаў 1–2 класа небяспечнасці. Такім чынам у рэспубліцы ствараецца магчымасць выдалення арганічна бяспечным спосабам састарэлых пестыцыдаў і адходаў поліхлараваных біфенілаў.

Галіновыя ўстановы Міністэрства аховы здароўя праводзяць ужо абавязковую дзяржаўную гігіенічную рэгістрацыю пестыцыдаў, ствараюць базу даных па выкарыстанні моцнадзеючых ядавітых рэчываў.

Праведзена таксама пераасначшэнне лабараторнай базы Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены Міністэрства аховы здароўя. Тут устаноўлена неабходнае абсталяванне для вызначэння стойкіх арганічных забруджвальнікаў у прадуктах харчавання.

Як падкрэсліла намеснік дырэктара па навуковай рабоце цэнтра І. А. Засценская, 90 працэнтаў дозы дыяксінаў паступаюць у арганізм чалавека менавіта з прадуктамі харчавання, усе астатнія крыніцы менш значныя.

У II паўгоддзі пачнецца правядзенне аналізу шкодных рэчываў у харчовых прадуктах. З гэтай мэтай спецыялісты выдзелілі чатыры асноўныя групы, якія вызначаюць сутачную дозу спажывання чалавека. Гэта прэснаводная рыба, мяса і мясапрадукты, малако і малочныя прадукты, яйкі.

***Вольга ШАЎКО***





**Палеміка**

*Галоўнаму рэдактару «Краязнаўчай газеты» Гілепу У.А.*

*Паважаны Уладзімір Аляксандравіч!*

*У нумарах 16 і 17 «Краязнаўчай газеты» за красавік – май 2004 года быў змешчаны артыкул Э. Р. Іофе «Летапіс айчыннай гісторыі і краязнаўства», у якім аўтар выказвае незадаволенасць некаторымі артыкуламі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Лічым, што крытыка Э. Р. Іофе неабгрунтаваная. Таму просім змясціць у газеце іншую думку.*

*Галоўны рэдактар Г. П. Пашкоў*



# Ці варта наводзіць цень, або Некалькі слоў у адказ незадаволенаму

У лістападзе 2003 г. пабачыў свет апошні том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Завершаны важнейшы дзяржаўны праект. Гэта – унікальная з'ява ў гісторыі культуры Беларусі, таму што такога выдання ў наш час не мае ні адна краіна на постсавецкай прасторы. Гэта выданне атрымала добрыя водгукі ў перыядычным друку, у навуковых выданнях. Здаецца, можна ганарыцца тым, што гэта цікавая энцыклапедыя выйшла ў нас, радавацца, што энцыклапедыя ахоплівае такі вялікі спектр фактаў, постацей і падзей, тлумачыць важныя з'явы і працэсы, закрывае белыя плямы ў беларускай гістарыяграфіі. «Энцыклапедыя гісторыя Беларусі» стваралася ў складаны час пабудовы новага грамадства, гэта не магло не паўплываць на выданне. Верагодна, што ёсць пытанні, якія не да канца растлумачаны, не ўсе акцэнты і кропкі пастаўлены. Складальнікі, стваральнікі энцыклапедыі – больш як 500 яе аўтараў, вядучых вучоных-гісторыкаў Беларусі, з павагай і цікавасцю ставяцца да заўваг чытачоў, да справядлівай, аб'ектыўнай крытыкі ў свой бок, бо гэта дапамагае ісці наперад, шукаць шляхі ўдасканалення. Але ёсць крытыка – аб'ектыўная, навуковая, дакладна абгрунтаваная, а ёсць «крытыканы» і «крытыканства». На гэту з'яву можна было б і не звяртаць увагі, але настойлівасць крытыка патрабуе сказаць некалькі слоў – не ў апраўданне, не, а каб растлумачыць пазіцыю выдавецтва, якое мае вельмі вялікі, грунтоўны вопыт стварэння энцыклапедычных выданняў, свае каноны і прынцыпы, свае метадычныя патрабаванні. Яны ўсе дасканала выконваліся пры падрыхтоўцы і стварэнні ЭГБ. Вельмі шкада, што паважаны Э. Р. Іофэ не зразумеў энцыклапедычных патрабаванняў і прынцыпаў, і ў сваім артыкуле «Летапіс айчыннай гісторыі краязнаўства» сам фактычна падзяліў усіх беларускіх гісторыкаў на некалькі катэгорый. Ці варта было гэта рабіць? Здаецца зразумелым, што ўсе гісторыкі, як і ўвогуле ўсе прадстаўнікі роду чалавечага, вельмі розныя, і немагчыма, а верагодна, і непатрэбна рабіць усіх аднолькавымі. Адзін доктар навук, другі – кандыдат, у аднаго – 2 манаграфіі, у другога – 15 артыкулаў, адзін усё жыццё працаваў на адным месцы, другі – змяніў 10 месцаў працы. Таму энцыклапедыя не ставіла за мэту зрабіць усіх аднолькавымі, а даць аб'ектыўную інфармацыю, якая рыхтавалася на падставе анкет, якія давалі самі гісторыкі, якія таксама ставяцца да сваіх біяграфій па-рознаму. А што казаць пра партрэты – адзін вельмі хоча і нават патрабуе, каб матэрыял пра яго змясцілі з партрэтам, а другі не хоча ніякага партрэта прынцыпова. Некаторыя гісторыкі ўвогуле не трапілі ў выданне, таму што вельмі гэтага не хацелі і проста настойвалі, каб ніякай інфармацыі пра іх у ЭГБ не давалі. Вось вам і катэгорыі. Іншыя, наадварот, замест невялікага энцыклапедычнага артыкула патрабавалі змясціць у энцыклапедыі ўвесь спіс сваіх навуковых прац і падрабязнейшую аўтабіяграфію, пачынаючы з ранняга дзяцінства. Вось вам і падыходы!

Што тычыцца зместу артыкулаў, змешчаных у «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», то да яго таксама можна падыходзіць па-рознаму. І ў кожнага можа быць на гэты конт сваё меркаванне. Тое ж самае і да памераў артыкулаў – перабольшваць іх нельга, і тыя аўтары, якія стала супрацоўнічаюць з выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя», добра ведаюць, што напісаць артыкул у газету і часопіс ці ў энцыклапедыю – справы зусім розныя, больш таго, прынцыпова розныя. Можна зразумець паважанага Э. Р. Іофэ, калі ён лічыць, што не ўся цікавая інфармацыя пра тыя ці іншыя падзеі, персаналіі, была змешчана ў ЭГБ. У якасці прыкладу можна прывесці артыкул, аўтарам якога з'яўляецца Э. Р. Іофэ, аб яўрэях як нацыянальнай меншасці, якія стала на працягу стагоддзяў жывуць на тэрыторыі Беларусі побач з беларусамі, рускімі, украінцамі і інш., . Першапачаткова выдавецтвам быў запланаваны артыкул памерам у 3 тыс. знакаў. Аўтар прынёс у выдавецтва тэкст на 20 старонках памерам амаль 40 000 знакаў, таму на пасяджэнні рэдакцыйнай калегіі было прынята рашэнне скараціць артыкул да адпаведных памераў. У выніку атрымаўся артыкул памерам 10 000 знакаў, у тры разы з лішкам большы, чым запланавана. Для энцыклапедычнага выдання гэта нармальны, дастатковы памер. Колькасць яўрэяў – Герояў Савецкага Саюза сапраўды прапаноўвалася аўтарам для ўключэння ў артыкул «Яўрэі». Але ж у ранейшых артыкулах пра народы Беларусі, у тым ліку пра тытульную нацыю «Беларусы», такія лічбы не даваліся, і рэдакцыі, згадзіцеся, не варта было парушаць агульны парадак. Не ўвайшлі ў артыкул і звесткі пра колькасць людзей – кандыдатаў і дактароў навук, лаўрэатаў прэстыжных прэмій і г.д. У цэлым над артыкулам «Яўрэі», як і над іншымі артыкуламі, была праведзена вялікая рэдактарская работа, было атрымана 11 рэцэнзій, у тым ліку з Ізраіля, што дазволіла ўдакладніць спрэчныя моманты і выправіць факталагічныя недакладнасці аўтарскага тэксту. Канчатковы варыянт артыкула адлюстроўвае найбольш сучасны ўзровень ведаў па гэтай тэме. Увогуле ж, Э. Р. Іофэ няма ніякіх падстаў скардзіцца на тое, што выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», яго кіраўніцтва і рэдакцыйная калегія, якія так не падабаюцца Эмануілу Рыгоравічу, абыходзяць тэматыку, звязаную з яўрэйскай нацыянальнай меншасцю ў Беларусі. Можна пералічыць цэлы шэраг складаных, грунтоўных артыкулаў, якія змешчаны на старонках «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»: «Аб'яднаная яўрэйская сацыялістычная рабочая партыя», «Антысемітызм», «Аршанскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Бабруйскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Бунд», «Віцебскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Гомельскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Горацкая арганізацыя Бунда», «Гродзенскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Іудаізм», «Магілёўскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Мінская яўрэйская сацыял-дэмакратычная група», «Мінскі сацыял-дэмакратычны камітэт Бунда», «Мяжа яўрэйскай аселасці», «Паалей Цыён», «Сінагога», «Сіянізм», «Талмуд», «Хасідызм», «Хедар» і шмат іншых.

Э. Р. Іофэ сцвярджае, што ніякай крытыкі не вытрымлівае артыкул «Халакост», змешчаны ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», і выказвае сваё меркаванне на гэты конт. Неабходна даць пэўныя тлумачэнні, каб у чытачоў сапраўды не склалася ўражанне, што «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» робіць «спробу замоўчвання Халакосту на беларускай зямлі». Трэба ўважліва прачытаць гэты артыкул, паглядзець, што ж сапраўды там напісана! У артыкуле памерам 1000 знакаў дадзены 3 значэнні гэтага тэрміна, якія ні адзін дасведчаны чалавек аспрэчваць не будзе. У ліку гэтых значэнняў тэрмін «Халакост» падаецца як сінонім генацыду (генацыд дадзены пад курсівам, таму тым, хто знаёмы з правіламі карыстання энцыклапедычнай літаратурай, вядома, што ў энцыклапедыі ёсць такі артыкул, да якога і адсылаецца чытач). Сапраўды, тэрмін «Генацыд» раскрываецца ў асобным артыкуле (ЭГБ, том 2, с. 505). Важнымі для раскрыцця гэтага тэрміна з'яўляюцца артыкулы «Гета», «Лагеры смерці», «Акупацыйны рэжым», «Антысемітызм». Другое значэнне тэрміна «Халакост», дадзенае у ЭГБ, гэта тое, што «у другой палове XX ст. у гістарыяграфіі, асабліва яўрэйскай, тэрмін Халакост стаў ужывацца для абазначэння сістэматычнага праследавання і знішчэння яўрэяў нацыстамі і іх памагатымі ў Германіі і на захопленых ёю тэрыторыях у час Другой сусветнай вайны». Здаецца відавочным, што тэрыторыя Беларусі 3 гады была акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, і таму гэты сказ мае да Беларусі непасрэднае дачыненне. Пры падрыхтоўцы артыкулаў «Яўрэі» і «Халакост» вострым было пытанне пра колькасць яўрэяў, загінулых на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Э. Р. Іофэ прапаноўваў лічбы ў 1 млн ці 900 тысяч чалавек. Але гэтыя лічбы завышаны і не даказаны. Гэта прыблізная аўтарская ацэнка па ўскосных звестках, якія не пацвярджаюцца дакументальнымі крыніцамі. Таму сцвярджаць гэта ў энцыклапедыі было б неабгрунтавана. У беларускай і замежнай гістарыяграфіі існуюць розныя лічбы ў розных аўтараў – ад 300 да 600 тысяч чалавек. Адзінай і даказанай, бясспрэчнай думкі тут пакуль што няма. Магчыма, яна з'явіцца ў будучым і тады будзе ўключана ў энцыклапедычныя выданні.

Пры вялікім жаданні ў любым выданні можна назбіраць шмат недахопаў. Але патрэбна, каб асабістыя крыўды і непаразуменні не ўмешваліся ў аб'ектыўнасць заўваг і крытычных прапаноў. І тое, напрыклад, што ў біяграфіі да артыкула «У. І. Пічэта» не прыведзены аўтары кнігі «Академик В. Н. Пичета. Страницы жизни» (Минск, 1981), у ліку якіх і паважаны Э. Р. Іофэ, не ўплывае на дакладнасць гэтага артыкула. Гэта зроблена ў адпаведнасці з бібліяграфічнымі патрабаваннямі, прынятымі ў энцыклапедыі.

Цікавасць уяўляе заўвага Э. Р. Іофэ наконт таго, што праблемы беларускага краязнаўства недастаткова поўна прадстаўлены на старонках «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», хоць і лічыць агульны артыкул «Краязнаўства» ўзорным (ЭГБ, том 4, с. 257–260). Можна ўсё ж такі сцвярджаць, што праблемы беларускага краязнаўства прадстаўлены ў ЭГБ дастаткова поўна і на належным навуковым узроўні. Пра гэта сведчыць, напрыклад, тое, што на падставе ЭГБ студэнты нашых ВНУ, у тым ліку БДУ і Беларускага універсітэта культуры, пісалі курсавыя работы па тэме «Пытанні беларускага краязнаўства ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», і матэрыялаў для напісання работ было дастаткова. Можна пагадзіцца з тым, што па некаторых пытаннях развіцця краязнаўчага руху на Беларусі ў ЭГБ хацелася б бачыць больш матэрыялаў. Але гэта таму што краязнаўства – гэта даволі шырокае паняцце: ёсць і экалагічнае, і геаграфічнае, і прыродазнаўчае, і культуралагічнае і інш., што не упісваецца ў гістарычную энцыклапедыю. Нам патрэбна «Беларуская краязнаўчая энцыклапедыя», настаў час яе зрабіць, выкарыстаўшы пры гэтым і набыткі і напрацоўкі «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі». Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» зараз працуе ў гэтым накірунку. І, здаецца, варта было б паважаным рэцэнзентам не крытыкаваць «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі» за тое, што не ўсе краязнаўчыя пытанні ў ёй адлюстраваны, а выступіць са сваімі прапановамі і дапамогай у стварэнні новага, каштоўнага для Беларусі выдання.

Ну і некалькі слоў на заканчэнне. Сапраўды, зроблена надзвычай важная, карысная справа, завершана унікальнае выданне. Тут, у нас, і менавіта ў нашы часы. Спадзявацца на тое, што праз гадоў 30 выйдзе новае выданне, якое «выведзе ЭГБ на яшчэ вышэйшы ўзровень», канешне, можна. Але тады прыйдзе новае пакаленне гісторыкаў і выдаўцоў, увогуле энцыклапедыстаў, і яны зробяць сваё, новае выданне. Гэта, напэўна, будзе іншае выданне. А мы – тут і зараз адказваем за тую «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі», якая, па меркаванні вельмі многіх нашых чытачоў і рэцэнзентаў, – надзейная цаглінка ў справе ўсталявання беларускай дзяржаўнасці, фундаментальная праца, запатрабаваная навукоўцамі, студэнтамі, школьнікамі, увогуле, усімі, хто цікавіцца багаццем і разнастайнасцю гісторыі беларускага народа. За іншае выданне будуць адказваць ужо нашы дзеці і ўнукі.

***Ларыса ЯЗЫКОВІЧ,***
***кандыдат гістарычных навук, загадчык рэдакцыі гісторыі, філасофіі, эканомікі і права выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі»***

**Ад рэдакцыі.** У гэтай палеміцы, на нашу думку, ёсць два станоўчы моманты: па-першае, звернута ўвага на новы том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», а па-другое, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі», у сваю чаргу, уважліва азнаёмілася з арыткулам-рэцэнзіяй на сваё выданне ў «Краязнаўчай газеце» за красавік–май 2004 года.

Мы далі магчымасць гісторыку Э. Р. Іофе выказаць сваю думку наконт апошняга вышэйназванага энцыклапедычнага тома, не лічачы, што «крытыка Э. Р. Іофе неабгрунтаваная»: калі ёсць яна, крытыка, то ёсць і падставы для яе. Зыходзячы прыкладна з такіх жа меркаванняў, прадастаўляем магчымасць і энцыклапедычнаму выдавецтву выказаць свой погляд на артыкул-рэцэнзію вучонага. А ўсё гэта, безумоўна, павінна выклікаць у чытача большую цікавасць да «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», сфарміраваць у яго сваё бачанне, сваю думку пра гэтае выданне, што выйшла ў наш час, і па задуме павінна зацікавіць і наступныя пакаленні.



*Фота Ігара ТРЭЧКІ*

Вялізным соснам, якія з даўніх часоў растуць ва ўрочышчы Стасіна, што на Століншчыне, непадалёк ад вёскі Манькавічы, давялося стаць сведкамі сумных падзей. У гады Вялікай Айчыннай вайны акупанты тут знішчылі 12500 мірных жыхароў.

**Школьныя музеі**

## «Спадчына»

Такую назву атрымаў этнаграфічны музей, які працуе ў сярэдняй школе № 27 г. Гомеля.

Тут выстаўлена шмат цікавых экспанатаў, якія клапатліва збірала разам са сваімі сябрамі Кацярына Адамаўна Мохарава. Сацыяльны педагог, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, горача ўлюбёная ў гістарычнае мінулае, абрады і песні нашага народа. Таму і вырашыла Кацярына Адамаўна стварыць такі школьны куточак, дзе б экспанаваліся старадаўнія рэчы, якія яскрава раскажуць дзецям і дарослым пра побыт працавітых продкаў. Мару сваю настаўніца здзейсніла: музей плённа працуе, прыцягвае ўвагу многіх гамяльчанаў. І не дзіўна. Бо вельмі многія хочуць дакрануцца душой і сэрцам да свайго, беларускага, знайсці адметнае і непаўторнае. Гэта, зразумела, толькі радуе. Бо наша мінуўшчына – стрыжань духоўнасці і моцы. І чым раней мы адчуем гэтую непаўторную повязь часу, тым раней станем лепшымі і чысцейшымі.

*Ганна АТРОШЧАНКА*



На фота аўтара: Кацярына Адамаўна Мохарава

## Ластаўка – птушка года

У канцы дваццатага стагоддзя чалавек сур'ёзна ўсвядоміў сваю адказнасць за ўздзеянне на прыроду, асабліва за нанесеныя ёй раны праз знішчэнне лясоў, балот і іх насельнікаў. Значныя страты ад цывілізацыі адчуў свет птушак, пачынаючы ад палярных бяскрылых гагарак і да гіганцкіх птушак Мадагаскара і Новай Зеландыі.

І зноў, як у эпоху росквіту геральдыкі XII–XVII стагоддзяў, выявы птушак сталі адлюстроўвацца на гербах дзяржаў і гарадоў, на эмблемах прамысловых і гандлёвых фірмаў, навуковых, прафесіянальных, спартыўных і іншых таварыстваў. Зноў на гербе Расіі з'явіўся арол. А навуковыя арніталагічныя таварыствы Аўстрыі, Фінляндыі, Галандыі, Славакіі і Мальты выбралі сваім сімвалам палярную крачку, Германіі і Літвы – белага бусла, Латвіі – сітаўку, Даніі – кнігаўку, Швецыі – ворана. У арнітолагаў Беларусі сімвал – вяртлявая чарацянка (камышэўка), больш паловы колькасці сусветнай папуляцыі якой жыве на Палессі. Па рашэнні таварыства «Ахова птушак Беларусі» апошні год мінулага стагоддзя ў рэспубліцы быў аб'яўлены годам белага бусла, першы год XXI стагоддзя – годам сітаўкі, 2002-гі – залацістай лясной пявунні івалгі, 2003-ці – вераб'я. А сёлетні, 2004 год, на VI з'ездзе таварыства аб'яўлены годам ластаўкі.

Легкакрылая, грацыёзная ў палёце птушка, яна заўсёды радуе, стварае добры настрой. 79 відаў сямейства ластавак вядома ва ўсім свеце, з іх у нас водзіцца тры віды. Перш за ўсё гэта вясковая ластаўка ці касатка, як яе яшчэ называюць за два хваставыя пяры, што выступаюць далёка назад у выглядзе косаў-рулёў. Касатак у Беларусі ад 1 да 1,5 мільёна, што гняздуюцца парамі, яны ўваходзяць у дзесятку самых шматлікіх нашых птушак.

На другім месцы па колькасці знаходзіцца сціпла афарбаваная берагавая ластаўка, якая гняздуецца па берагавых абрывах у норах, размешчаных гарызантальна да паўтара метра. Беражанак у Беларусі 200–300 тысяч пар. Дарэчы, добра абжыліся яны на Нёмане.

Замыкае трыяду сямейства гарадская ластаўка ці варанок. З-за паляпшэння стану санітарнай камфортнасці нашых гарадоў і адпаведнага зніжэння ў іх колькасці насякомых – асноўнага корму гэтых ластавак – колькасць іх у Беларусі скарацілася да 100–150 тысяч пар.

Якія ж найбольш цікавыя якасці ластавак, што адрозніваюць іх ад амаль 8 600 відаў птушак свету? Здзіўляе здольнасць упадаць у глыбокі сон, ці, як часам называюць па аналогіі з мядзведзямі або барсукамі, у спячку. Пры гэтым тэмпература цела птушак паніжаецца з 41 градуса да 14–20. Ластаўкі могуць спаць і ў паветры.

Загадкавыя шляхі міграцыі ластавак на зімоўку. Напрыклад, частка касатак еўрапейскай папуляцыі восенню накіроўваецца на паўднёвы захад, а ў Афрыцы паварочвае на поўдзень і паўднёвы ўсход. Вясной яны вяртаюцца, агінаючы ўсходняе Міжземнамор'е, робячы такім чынам петлепадобныя шлях па Афрыцы. Зімуюць жа яны ў Сярэдняй і Паўднёвай Афрыцы вялізнымі чародамі і складаюць там 90 % усіх ластавак афрыканскага кантынента ў зімовыя для паўночнага паўшар'я месяцы.

Ластаўкі ў сваім імклівым палёце нагадваюць стрыжоў – рэкардсменаў сярод дробных птушак па хуткасці. Але, у адрозненне ад стрыжоў, вочы іх бачаць не толькі тое, што знаходзіцца ўперадзе па курсе палёту, але і тое, што лятае, сядзіць, поўзае ці плавае па баках. Таму яны здольныя маланкава паварочваць у любым напрамку і хапаць здабычу.

Прылятаюць ластаўкі да нас у красавіку–маі. Касатка дае два выводкі па 4–6 птушанят. Кормяць іх бацькі па некалькі соцень разоў у дзень, птушаняткі ж з'ядаюць корму больш, чым важаць самі.

Век ластавак, на жаль, вельмі кароткі. Згодна з назіраннямі, з 77 акальцаваных у Германіі касатак 55 прапалі на наступны год, 17 – на другі, 6 – на трэці, і толькі адна дажыла да 5 гадоў. Берагчы ластавак, як і ўсю жывую прыроду, – да гэтага заклікаюць арнітолагі свету.

***Эдуард САМУСЕНКА,***
***ганаровы член таварыства «Ахова птушак Беларусі»***

## За сценамі Лоскага замка

Лоскаму замчышчу – не менш як шэсцьсот гадоў. Ужо ў першых пісьмовых крыніцах, якія адносяцца да XIV стагоддзя, пра Лоск гаворыцца як пра добра ўмацаванае паселішча. А з другой паловы пятнаццатага стагоддзя, як адзначаюць гісторыкі, лоскі ўзгорак ужо вянчала карона зубчатых сцен з байніцамі і вежамі.

*«Лоск – вёска ў Валожынскім р-не Мінскай вобласці. Цэнтр калгаса. За 25 км на Пн ад Валожына, 100 км ад Мінска. ... У «Спісе рускіх гарадоў далекіх і блізкіх» (канец XIV ст.) згадваецца пад назвай Лошаск. Паводле археалагічных даследаванняў у XI–XVIII ст. тут існавала паселішча, а ў XIV–XVIII ст. – Лоскі замак».* – **Беларуская Энцыклапедыя, 1999 г.**

Згодна аднаго старога падання, сцены Лоскага замка-крэпасці клалі не з цэглы або прывазнога граніту, а з валуноў і камянёў, якіх багата было на лоскіх палях. Але муры гэтыя заклалі шырынёй у сем крокаў, і хутка на адзін толькі падмурак, апушчаны на многа метраў у глыб гары, пайшлі ледзь не ўсе сабраныя на палях камяні. Вось тады і быў выдадзены строгі загад: не ўпускаць у Лоск ні пешага, ні коннага без камянёў. Коннаму – не менш тузіна камянёў прывезці на возе, пешаму – хоць адзін замест пропуска.

Калі камянёў набралася цэлыя горы, іх рассартавалі па памерах, па колеры і пачалі ўзводзіць сцены. У ніжні першы рад паклалі самыя вялікія валуны, і ўсе чорнага колеру. Далей пайшлі пласты сініх, за імі – шэрых, карычневых валуноў... І чым вышэй узнімаліся сцены, тым яны станавіліся святлейшыя і ярчэйшыя. А самыя апошнія метры сцяны і ўсе зубцы на ёй і вежы былі складзены з камянёў толькі жоўтых і чырвоных адценняў.

Калі ў сцяну замуравалі апошні чырвоны камень і дождж абмыў высокія сцены ад пяску і гліны, убачылі жыхары Лоска, што зубцы і вежы нібы заліваюць чырвонае зарыва.

Вось так, здзіўляючы гасцей і палохаючы ворагаў, над Лоскам у любое надвор'е гарэла выкладзенае з рознакаляровых камянёў зарыва...

На пабудову Лоскага замка людзі сабралі каменне з палёў і лясоў на сто вёрст вакол. І таму, хто задумаў паставіць печ або закласці пад дом каменны падмурак, нічога іншага не заставалася, як купляць у каго-небудзь каменне па дарагой цане або ехаць па іх ажно пад Вільню. Пакутвалі з-за гэтага людзі цэлыя стагоддзі, пакуль не пачалі трэскацца і рассыпацца сцены старога замка. Вось тады і пайшла пагалоска, што каціліся з Лоскага ўзгорка камяні да таго часу, пакуль не трапілі на тое месца, адкуль іх калісьці прывезлі ў Лоск...

З 1494 года Лоскім замкам валодаюць Кішкі. Спачатку Пётра Кішка – полацкі ваявода, потым яго брат Ян Кішка, кашталян Віленскі, добра вядомы ў межах Літвы і Беларусі як заўзяты прыхільнік і прапагандыст рэфармацыі. Часлаў Янкоўскі ў кнізе «Павет Ашмянскі», выдадзеный у 1897 годзе, пісаў, што Ян Кішка з'яўляўся галавой літоўскіх баяр, меў 400 іменняў і 70 мястэчак. Гэта тут, за надзейнымі сценамі Лоскага замка, у баку ад вялікіх гарадоў, Ян Кішка ў 1570 годзе заснаваў друкарню з адзінай мэтай – друкаваць кнігі рэфармацыйнага зместу, якія крытыкуюць каноны і догмы афіцыйнай царквы.

Прыблізна з гэтага часу ў гісторыю Лоска ўпісваецца і імя Сымона Буднага – выдатнага беларускага філосафа-гуманіста і пісьменніка. Пра самога Буднага нам вядома не так ужо і многа, але гады, пражытыя ім у Лоску, памятныя найбольш выдатнымі працамі, якія ён і напісаў тут, і надрукаваў у Лоскай друкарні.

Не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе ў другой палове XVI стагоддзя цяжка было знайсці такога філосафа, які б так адважна выступіў супраць пануючай царквы і так рашуча расправіўся з афіцыйным хрысціянскім веравучэннем. У 1574 годзе з Лоскай друкарні выйшла ў свет другое выданне Новага Запавета з аўтарскаю прадмоваю і крытычнымі каментарыямі. У гэтым жа годзе Будны аддае сваё рэлігійна-філасофскае вучэнне на суд рацыяналістычна настроенай беларускай інтэлігенцыі. На шматлюдным сходзе ў доме сябра і аднадумцы Буднага Васіля Цяпінскага гэта вучэнне было ўхвалена. Слухачы паралі Буднаму абагуліць свае навуковыя погляды і выдаць асобнай кнігай. Калі б Будны не напісаў нічога больш, а толькі прадмову і заўвагі да новазапаветных кніг, то аднаго гэтага было б даволі, каб трывала ўвайсці ў гісторыю сусветнай грамадскай думкі.

Сёння можна ўявіць сабе, як за старажытнымі замкавымі сценамі ўздымаўся палац з прыёмнымі заламі, трапезнай, пакоямі для адпачынку. Тут былі размешчаны і дзесяткі самых розных дапаможных памяшканняў: кладоўкі, сховішчы для прадуктаў і зброі, асобныя памяшканні для гасцей і чэлядзі, казармы – для воінаў і варты, канюшні – для коней. Крута ўздымаліся парадныя лесвіцы і калідоры, але недзе па вузкім, цёмным праёме спускалася і другая патайная лесвіца, якая, магчыма, прама з келлі вучонага вяла ў склеп, дзе стаяў друкарскі станок...

***Падрыхтавала***
***Наталля ЛОЎЧАЯ,***
***дырэктар Валожынскага раённага музея***

### Застаўся, хоць пайшоў...

Пайшоў ад нас трагічна ў сваім пятнаццацігадовым узросце вучань СШ № 178 г. Мінска Анатоль Герасімчык. Але яго памятаюць. Выстаўка палотнаў юнага мастака не пакінула безуважным нікога, хто прасвятліўся яго талентам, – ні настаўнікаў, ні вучняў школы, ні святара. А яшчэ... нібы жывы стаіць ён перад вачамі сваёй матулі Валянціны Герасімчык, якая расказала прысутным пра сына, пра яго імкненні да ўзвышанага, да Бога.



*Фота Міхася КЕНЬКІ*







Станькаўская сядзіба ў Дзяржынскім раёне. Рэшткі брамы

Фота Уладзіміра Вылінскага

## Падахвоцілі і прадпрымальнікаў, і банкі

А раскашэліліся яны ў добрым сэнсе гэтага слова на набыццё двух стэндаў для музея знакамітага земляка Васіля Быкава, стварыць якія заклікала Гродзенскае гарадское грамадскае аб'яднанне ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл.

Экспанаты, сярод якіх рукапісы і асабістыя рэчы пісьменніка, перадала музею яго радня.

## Пасёлак Рось, дзе цэнтр рамёстваў ёсць

У цэнтры рамёстваў гарадскога пасёлка Рось, што на Ваўкавышчыне, адразу прыцягваюць увагу прыгожыя габелены і досыць багатая калекцыя старадаўніх прылад і вырабаў. Усё гэта – вялікая праца яго супрацоўнікаў на чале з дырэктарам Святланай Кудош.

Яны нямала паездзілі па вёсках. Нейкія вырабы людзі дарылі, а нейкія набываліся на ўласныя сродкі. Цяпер кожная рэч тут мае свой пашпарт з усёй яе «біяграфіяй». Па выніках даследчых экспедыцый цэнтра рамёстваў былі арганізаваны выставы. Сярод іх «Узоры родных ваколіц» – з 122 работамі дваццаці майстрых Ваўкавыскага раёна, «Люстэрка мінулага лета» – з жывапіснымі палотнамі народных майстроў вёскі Вярэйкі, пасёлка Рось і горада Ваўкавыска, «Чароўны свет карункаў» – з вырабамі жыхаркі вёскі Вехатніца Алены Маркоўскай.



Мясцовыя жыхары, асабліва дзеці, любяць бываць у цэнтры рамёстваў не толькі гледачамі, але і творцамі. Сёлета тут працуе 15 гурткоў. Амаль сотня вучняў займаецца лепкай з гліны, саломапляценнем, ткацтвам, вязаннем кручком, роспісам гарачым воскам, выцінанкай, разьбой па дрэве і інш.

Акрамя музейна-выставачнай дзейнасці, гуртковай работы, правядзення лекторыяў, адкрытых урокаў, тут няспынна вядзецца даследчая работа па ўзнаўленні народнага касцюма Ваўкавыскага раёна, выяўленні мясцовых і рэгіянальных асаблівасцей традыцыйных рамёстваў.

*Аксана МАЗУР, Ваўкавыскі раён*

# З надзеяй на ўнукаў

*(Пачатак у № 24)*

## Мой бацька Аляксандр Іванавіч Корзун

(1854–1944)



Малюнак Ул. ТАМАШЭВІЧА

Наогул, к часу рэвалюцыі 1917 года ў бацькі назбіралася значная сума грошай, за якія можна было купіць гектараў дваццаць пяць зямлі. Прапалі гэтыя царскія грошы, але не зусім: савецкая ўлада дала бацьку бясплатна памешчыцкай зямлі пяць гектараў у маёнтку Лемна Пухавіцкага раёна.

Пра гэтыя страты і здабыткі бацькоў, звязаныя з рэвалюцыяй, я прыпомніў у сувязі з адным выпадкам. Мне аднойчы даручылі прачытаць даклад для сялян. Гэта было дзесьці ў 1946 або 1947 годзе. Даклад быў гатовы, надрукаваны на машынцы, на тэму «Што дала савецкая ўлада сялянам». Пасля даклада пытанняў прысутныя не задавалі, а толькі адзін стары выказаўся: «Ты лепш бы, сынок, расказаў, што савецкая ўлада забрала ў сялян, а не дала, бо ў кожнага селяніна, нават самага беднага, была невялікая сума грошай на «чорны дзень». Яны прапалі... Ды што сялян – жабракоў і тых абрабавала: кожны жабрак збіраў капейкі і складваў іх на той час, калі не зможа пайсці жабраваць, каб на іх купіць кавалак хлеба...» Памятаю, я разгубіўся і нічога не мог сказаць на такое «контррэвалюцыйнае» выступленне.

Хоць і прапалі царскія грошы – вынік амаль паўвекавой цяжкай працы і найвялікшай ашчаднасці, але ў нашай сям'і па іх асабліва не бедавалі. Па-першае, таму, што на атрыманых палосках зямлі ўсё ж можна было пражыць, ды ў нашым родзе не было вельмі скваплых, якія калоцяцца з-за кожнай капейкі. Па-другое, адкрыліся заробкі і з'явілася дастаткова вольнага часу ва ўсіх членаў сям'і, бо не 20–30 гектараў патрэбна было апрацоўваць, а толькі пяць. Савецкая ўлада пачала ў вялікіх маштабах весці лесараспрацоўкі, рэзаць дровы, бярвенне, руднічную стойку, рабіць дубовую і асінавую клёпку – усё гэта давала магчымасць зарабіць свежую капейку. Па-трэцяе, на сходах і без сходаў кожны дзень паўтаралі: «Свабода! Роўнасць! Брацтва!» За гэтыя шматабяцаючыя лозунгі просты народ гатовы быў ісці і ў агонь і ў ваду.

Бацька хоць і пастарэў, але да апошняга часу стараўся што-небудзь рабіць. Апроч усіх відаў работ па сельскай гаспадарцы, ён умеў рабіць драўляныя бочкі, цэбры, вёдры, ночвы, лыжкі; інвентар з дрэва: калёсы, сані, бароны, граблі, цапы. Умеў шыць боты, збрую для коней: хамуты, сядзёлкі, аброці. Як пісаў Якуб Колас: «...што замысліць, то ўсё зробіць». І безліч людзей звярталася да бацькі з рознымі просьбамі. А калі забіралі заказ і пыталіся, колькі заплаціць, то бацька махаў рукой і казаў: «Эт, якая там плата... Вось бяры ды ўсё...»

У 1934 годзе бацьку пайшоў дзявяты дзесятак гадоў. Цяжкая сялянская праца на працягу сямідзесяці гадоў адняла сілу і спрыт. Перад самай вайной 1941–1945 гадоў бацька часта хварэў, асабліва на раматус.

Калі пачалася вайна, на тэрыторыі, якую займалі немцы, органы савецкай улады пакідалі людзей для барацьбы ў тыле ворага – падпольшчыкаў, якія пазней стварылі ядро партызанскіх атрадаў. Немцы пагражалі: хто будзе мець сувязь з партызанамі, той будзе расстраляны. Зімой 1941–1942 гадоў партызан было яшчэ мала, і яны хаваліся ў маладаступных лясных масівах, у вёсках з'яўляліся толькі ноччу і толькі ў тых, якія знаходзіліся ў глухіх месцах, дзе немцы не бывалі. Вясной 1942 года партызаны пачалі забіраць у свае шэрагі ваеннапалонных, што засталіся па вёсках, якіх называлі прыпіснікамі, бо яны былі прыпісаны ў чыю-небудзь сям'ю. Тых, хто не жадаў ісці хавацца па лясах і партызаніць, партызаны расстрэльвалі. Частка прыпіснікоў уцякла ў буйныя населеныя пункты, дзе былі нямецкія гарнізоны. У гарнізонах не жадалі дарэмна карміць іх хлебам і прымушалі ісці ў паліцыю. Так, летам 1942 года пачаўся вельмі хуткі рост колькасці як партызанаў, так і прыхільнікаў немцаў – паліцаяў. Сталі часцей адбывацца сутычкі паміж немцамі і партызанамі. А ў тых мясцінах, дзе немцаў забівалі, выязджалі карныя атрады. У бліжэйшых ад месца здарэння вёсках забіралі ў насельніцтва ўсю маёмасць, людзей расстрэльвалі, а хаты ды іншыя будынкі спальвалі. Партызан не спыняла расправа немцаў з мірным насельніцтвам. Наадварот, гэта было ім на руку, бо, ратуючыся ад немцаў, людзі папаўнялі партызанскія атрады. Дайшла чарга загінуць населеным пунктам Балоча і Чырвоны Маяк, дзе жылі мае бацькі, два старэйшыя браты з сем'ямі і я з сям'ёй. Партызаны зрабілі засаду на немцаў каля былога хутара Асавок-2, недалёка ад вёскі Балоча. На другі дзень прыехаў карны атрад, спаліў Балочу і Чырвоны Маяк, разрабаваўшы маёмасць насельніцтва. З нашых сваякоў быў забіты старэйшы брат Іван. Мне і брату Антону выпадкова ўдалося выратавацца. Калі бацьку выганялі з хаты, каб спаліць яе, той прасіў немцаў, каб забілі яго, але на гэты раз яго пакінулі ў жывых. Гэта было восенню 1942 года. Зіму 1942–1943 гадоў бацька пражыў у дачкі Марыі Аляксандраўны Паскробкі ў пасёлку Новая Балоча. Не ўцалеў і гэты пасёлак.

Незадоўга да знішчэння Новай Балочы немцамі я, будучы партызанам, зайшоў наведаць бацьку. Ён ужо некалькі месяцаў не падымаўся з пасцелі. Бацька паклікаў мяне слабым голасам, прыпадняўся і сказаў: «Давай я цябе благаслаўлю, а то, можа, болей не ўбачымся...» Ён слабою рукою перахрысціў мяне. Потым лёг, нацягнуў коўдру да рэдкай белай барады і заплюшчыў вочы...

Пазней пра смерць бацькі мне расказвалі так. Па пасёлку разнеслася трывожная вестка: набліжаюцца немцы. Усе, хто мог хадзіць, кінуліся ўцякаць у лес. Пайшла з імі і маці. Немцы і паліцаі прыйшлі ў вёску, разрабавалі з маёмасці тое, што маглі забраць з сабою, а будынкі і ўсё астатняе спалілі. Калі людзі вярнуліся з лесу на пажарышча, то ўбачылі недалёка ад спаленай хаты на снезе майго бацьку. Ён быў мёртвы.

## Мая маці Аляксандра Фларыянаўна Біруля

(1865–1944)

Пра дзеда і бабку па лініі бацькі я напісаў параўнаўча больш. І гэта не таму, што мае сімпатыі былі на іх баку, а таму, што я пра іх больш ведаў. А вось пра бацькоў маёй маці я ведаю зусім мала. Бацька маёй маці быў леснікам для асобых даручэнняў у князя Радзівіла і жыў у Нясвіжы. Дзесьці на адным тыдні ў 1865 годзе нарадзілася мая маці, а ў князя нарадзіўся сын. Князь папрасіў, каб бабка карміла грудзьмі абодвух дзяцей. За гэта павёў дзядулю на ферму і загадаў яму выбраць сабе найлепшую карову. Маці была ахрышчана ў Нясвіжскім касцёле і яе хросным бацькам быў арганіст гэтага касцёла. Касцёл у Нясвіжы – выдатны гістарычны і архітэктурны помнік на тэрыторыі Беларусі. Ён пабудаваны ў 1585 годзе. Недалёка ад касцёла знаходзіцца старажытны княжацкі замак – збудаванне велічнае і цікавае.

Маці ўмела чытаць па-польску і па-руску. У яе былі тры браты. Старэйшы Антось, сярэдні Міхась і малодшы Касіян.

Маці была самай малодшай у сям'і. Дзесьці ў сямідзесятых гадах дзевятнаццатага стагоддзя дзед пакінуў службу ў князя Радзівіла і купіў уласную зямлю ў Кобзевічах Ігуменскага павета (цяпер Чэрвенскага раёна). Маці расказвала, што зямля гэта была занята лесам, і, каб ператварыць яе ў ворыва, давялося многа гадоў цяжка працаваць усёй сям'і. Найбольшым недахопам з прыродных умоў было тое, што мала было сенажаці, ды і тая нізкай якасці. Гэта перашкаджала жывёлагадоўлі. А мала жывёлы, мала і ўгнаенняў...

Колькі я памятаю, маці ніколі не сядзела без справы: патрэбна было дагледзець гаспадарку, наварыць і накарміць усіх, прасці кудзелю і воўну, ткаць палатно, сукно, абрусы, ручнікі, вязаць панчохі, шыць бялізну... Яна заўжды першай уставала раніцой і апошняй клалася спаць увечары. Нават, калі ажаніліся мае браты, а сястра выйшла замуж, маці і тады не пакідала работы.

Пасля таго, як была спалена Новая Балоча, маці, пахаваўшы бацьку, пайшла ў пасёлак Новасяленне Чэрвенскага раёна да сваёй дальняй сваячкі па прозвішчы Дзядзюля. Менш як на паўгода маці перажыла бацьку. У маі 1944 года была так званая блакіроўка: немцы і паліцаі акружалі мясцовасць, ланцугом праходзілі па лясах і каго лавілі – арыштоўвалі. Арыштаваных у вёсцы і злоўленых у лесе зганялі ў адно месца. Потым адбіралі маладых і здаровых і адпраўлялі ў Германію на катаржныя работы. А астатніх – старых і дзяцей, інвалідаў і хворых зганялі ў будынкі, аблівалі сцены бензінам і падпальвалі. Так была спалена і мая маці ў вёсцы Арэхаўка Чэрвенскага раёна ў маі 1944 года. Я прыбыў у тую вёску на другі дзень пасля пажару. Яшчэ дыміліся пажарышчы. Адно сырое бервяно падрубы не згарэла поўнасцю, а толькі абгарэла яго верхняя частка. Калі адвярнулі гэтае бервяно, то пад ім аказалася цэленькая незгарэлая дзіцячая ручка...

...У хвіліны роздуму аб узаемаадносінах паміж людзьмі я часта ў думках бачу незгарэлую далонь дзіцячай рукі. Каму перашкаджала жыць на свеце гэтае дзіцё? Для каго яно ўяўляла небяспеку? Каму, наогул, перашкаджалі сотні і тысячы людзей – дзяцей і старых, знішчаных у час вайны? І знішчаных не выпадкова ад кулі ці снарада, а наўмысна, каб паказаць сваю звярыную жорсткасць. Нідзе няма адказу на гэтыя пытанні ў літаратуры на тэму вайны 1941–1945 гадоў. А сутнасць такой жорсткасці ясная: немцы на акупіраванай тэрыторыі імкнуліся вынаходзіць самыя жорсткія пакаранні тым, хто выступаў супраць іх. А прадстаўнікі савецкай улады вынаходзілі найбольш жорсткія формы расправы з тымі, хто не станавіўся на шлях барацьбы з немцамі. І ішло чатыры гады такое сатанінскае спаборніцтва на акупіраванай немцамі тэрыторыі: хто больш знішчыць людзей і найбольш бязлітаснымі спосабамі. У выніку кожны чацвёрты жыхар Беларусі быў забіты. Выпадкова гэта ці не? Вось над гэтым пытаннем варта падумаць кожнаму, у каго ёсць хоць крыху свайго розуму, я падкрэсліваю, – свайго розуму. Але той, хто прывык, як папугай, паўтараць чужыя думкі, той на гэта пытанне не адкажа.

**Уладзімір КОРЗУН**



Чакае рэчка Копанец спякоты

Фота Ігара ГРЭЧКІ

# Запатрабаванае жыццём

У Нацыянальным прэс-цэнтры прайшла прэзентацыя камплекта адукацыйных матэрыялаў для дзяцей і падлеткаў, накіраваных на папулярызацыю ведаў па ўстойлівым развіцці.

Кнігі выдадзены пры падтрымцы Прадстаўніцтва ААН у рамках праекта Праграмы развіцця ААН "Садзейнічанне ўраду Рэспублікі Беларусь у фарміраванні і рэалізацыі Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця". Упершыню паняцце "ўстойлівае развіццё" з'явілася ў 1980 годзе.

У 1992-м у Рыо-дэ-Жанейра на канферэнцыі Аб'яднаных Нацый па навакольным асяроддзі 179 дзяржаў заявілі пра неабходнасць прыняцця Плана дзеянняў на XXI стагоддзе, што абвяшчае мэты ўстойлівага развіцця. Маецца на ўвазе забеспячэнне эканамічнага росту краіны, які б не наносіў шкоды прыроднаму асяроддзю, і паважлівае стаўленне да культурна-прыроднай спадчыны. У дакуменце таксама – план дзеянняў. У Беларусі яшчэ ў 1997 годзе распрацавана і прынята Стратэгія ўстойлівага развіцця краіны. Зараз ідзе работа над такім жа планам, разлічаным на перыяд да 2020 года. Важна, што асаблівая ўвага надаецца мясцовым мерапрыемствам, якія, пацвярджаючы каштоўнасць тэорыі малых спраў, накіраваны на ўвагу да экалогіі ў вёсках і гарадах Беларусі. У гэтым накірунку працуюць у Тураве Гомельскай вобласці, Дзяржынску і Вілейцы Мінскай вобласці. Для пашырэння ініцыятыў, на мясцовым узроўні ў тым ліку, і распрацоўвалася вышэйзгаданая серыя. Яшчэ адна прычына – недахоп у нашай краіне метадычнай і вучэбнай літаратуры па ўстойлівым развіцці.

Праца над камплектам працягвалася з сярэдзіны 2003 года. Мова выдання – беларуская. Паліграфія – выдатная. Аўтара выбіралі на конкурснай аснове. Ім стала Тамара Булыгіна, вядомая публікацыямі на экалагічную тэматыку.

Наклад вельмі невялікі – 500 экземпляраў, таму кнігі будуць перададзены ў публічныя, у тым ліку дзіцячыя, бібліятэкі, школы, цэнтры пазашкольнай работы і іншыя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, якія займаюцца адукацыяй і выхаваннем дзяцей.

Серыя пачынаецца з "Казак для дзяцей і дарослых", дзе ёсць прыгоды воднай кропелькі, аповед пра тое, як лясныя жыхары лячылі прыроду, і іншае. Для старэйшых прапануецца "Экалагічная азбука, або карысныя справы дзяцей і дарослых для ўстойлівага развіцця чалавека і прыроды". Тут на кожную літару беларускага алфавіта дадзены паняцці пра прыроду і разумнае стаўленне да яе. Характэрна, што стыль напісання мае не забаронны характар, а пабуджальны да добрых спраў і намаганняў зрабіць для прыроды, а значыць і для сябе, нешта карыснае. Падлеткі ж атрымалі кнігу "Мы выбіраем будучыню", дзе ў форме ток-шоу разглядаюцца тыя ж пытанні, толькі на больш сур'ёзным узроўні. Моладзі даецца магчымасць азнаёміцца з рознымі пунктамі гледжання на навакольнае асяроддзе і сфарміраваць уласнае гуманнае экалагічнае светаўспрыманне.

## Прызнанне сучаснай "Легенды"

Гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра камплект офіснай мэблі "Легенда" Слуцкай мэблевай фабрыкі, за які яна адзначана дыпломам на апошняй рэспубліканскай выстаўцы-продажы "Мэбля –2004" у намінацыі "Лепшыя ўзоры мэблі". А вось падступацца да яе выпуску пачалі яшчэ ў пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя.

Камп'ютэрныя сталы некалькіх відаў – апошняя навінка прадпрыемства. Распрацаваны таксама новыя серыі адкрытых і закрытых шафаў, пісьмовых сталоў. Сёння іх можна набыць таксама ў фірменным магазіне, які адкрыўся на фабрыцы.

# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

## Рыззёўшчыкі

У цёплы час года на вуліцах горада часам раптам чуліся ўдары ў своеасаблівы гонг і крыкі: "Бёрэ шматы, бёрэ шматы, купуе шматы!" (бяру рыззё, бяру рыззё, набываю рыззё) – так па прыездзе паведамляў пра сябе рыззёўшчык (анучнік). Яго вялізная фура была запрэжаная парай моцных коней і марудна рухалася па вуліцы. Паводле цяперашняй тэрміналогіі – рухомы пункт прыёму другаснай сыравіны. Пры ягоным з'яўленні на суседніх дварах пачыналася шумная мітусня. Гаспадыні з дзецьмі выносілі накопленыя транты і адна перад адной вышуквалі непрыдатнае для хатняга ўжытку рыззё, іншую непатрэбную старызну. А наўзамен можна было атрымаць колькі дробных манетак альбо атрымаць металічную скрыначку смактулек, паветраныя шарыкі ці цмокі (змеі), каляровую паперу, невялікія кавалачкі мыла ды іншую драбязу, якую, зрэшты, можна было набыць у крамцы на суседняй вуліцы. Але набыць за грошы. А рыззёўшчык даваў усё гэта амаль задарма.

Рыззё было каштоўнаю сыравінаю для вытворчасці высакаякаснай паперы. Увогуле, не грэбавалі рыззёўшчыкі і іншымі рэчамі: пачкамі газет, бутэлькамі, каляровым металам.

Самы вядомы лунінецкі рыззёўшчык жыў на вуліцы Акружной, меў 4 кані, вялікую і малую фуры. У двары ягонага дома быў своеасаблівы склад старых анучаў, жалеза, паперы. Сартаваць усё і складваць дапамагалі два сыны.

## Ювеліры

Сярод даваенных лунінецкіх ювеліраў найбольш вядомым быў толькі адзін. Ягоная майстэрня-будка, што нагадвала сённяшнія камерцыйныя шапікі, знаходзілася ў раёне прывакзальнага сквера. Працаваў ён па найвышэйшым разрадзе, па-майстэрску выконваў любыя заказы з золата і срэбра – рабіў і рамантаваў пярсцёнкі, ланцужкі, брошкі. Прозвішча ягонае было незвычайным для прафесіі – Партной. Ягоны бацька быў вядомым у горадзе біёлагам. Але сын у хуткім часе засланіў славу бацькі.

У другой палове 30-х гадоў увайшлі ў моду манаграмы – мастацкае перапляценне літараў-ініцыялаў імя і прозвішча, выкананае ў золаце або срэбры, часам з каштоўнымі камянямі. Манаграмы прымацоўвалі на жаночыя рыдыкюлі, мужчынскія партмане, скураныя партсігары, нататнікі. Радзей рабілі ў выглядзе заколак для гальштука або жаночае брошкі. Ювелір прапаноўваў заказчыку прагледзець выпісаны з Варшавы спецыяльны каталог манаграмаў і асобных, па-мастацку выкананых літараў, тут жа падбіраўся патрэбны эскіз, і майстар пачынаў працу. Заказ выконваўся хутка і якасна. У ювеліра Партнога не было асаблівых інструментаў ці прыстасаванняў для тонкай працы – невялікі горан, у якім гарэла бярозавае вуголле, некалькі шчыпцоў, невялікіх малаткоў, рэзакоў і некалькі февак – невялікіх трубак рознага дыяметра з выгнутымі канцамі. Майстар выхопліваў з горана раскалены вугельчык, укладваў яго перад сабою на спецыяльную падстаўку, побач з вугельчыкам клаў каштоўны метал, браў у рот феўку і пачынаў дзьмуць, накіроўваючы струмень паветра на вугельчык і метал. Праз нейкі час метал плавіўся і зліваўся ў падрыхтаваную раней форму або месца паломкі пярсцёнка ці брошкі. А далей ішла ручная апрацоўка і даводка.

Усе лунінецкія модніцы ад старшакласніц-гімназістак ды і гімназістаў, людзей сярэдняй заможнасці, да інтэлігенцыі насілі ўпрыгажэнні, зробленыя Партным: манаграмы, мудрагелістую брошку, пярсцёнак або бірульку да гадзінніка. Музыкі духавога аркестра пажарнай гарадской каманды насілі арыгінальныя срэбныя значкі, што сведчылі аб прыналежнасці да прэстыжнага калектыву. Падобны значок быў і ў музыкаў духавога аркестра паравознага дэпо. Але найперш замовіў ювеліру свой значок струнны аркестр рускай рэальнай вучэльні. Майстар выканаў яго ў форме срэбнай ліры, над якой лаўровыя галінкі са стужкай і датай "6.11.1926" – датай заснавання аркестра, вельмі папулярнага ў горадзе.

***Леў КОЛАСАЎ***

Старажытныя модніцы




# Ці хораша ты, дзяўчыначка, прыбраная?

## Пацеркавыя скроневыя кольцы

*(Заканчэнне. Пачатак у № 25)*

Ажурная, зярнёная, драцянакаркаснай формы пацерка спаяна з дзвюх паўсфер, адціснутых на матрыцы. На кожнай паўсферы выразана па шэсць скразных паўкруглых ці эліпсападобных, не аднолькавага памеру адтулін і круглая адтуліна на вяршыні, праз якую працягвалася драцяная дужка. Паўсферы злучаны паміж сабой, утвараючы шар. Кожная адтуліна абведзена гладкім дротам. Прастора паміж адтулінамі пакрывае напаяныя гранулы зерні. На дзвюх паўсферах пацеркі, дыяметр якой складае ўсяго 18 мм выразана 14 адтулін, краі якіх аблямоўваюць 14 драцяных абводак, а на 8 падстаўках-гнёздах змешчана 8 буйных зёран срэбранай зерні. Пацерка складзена, такім чынам, з 32 элементаў.

Зернь атрымлівалі пры расплаўленні аднолькавых кавалачкаў металу ці колцаў у парашку драўнянага вугалю. У горане сасуд награваўся пры раўнамерным выдзіманні. Сасуд пры гэтым перыядычна ўстрэсваўся. Пасля расплаўлення металу сасуд вымаўся з горана і ахаложваўся. Зернь аддзялялі ад вугалю, прамывалі,. Прасушвалі і прасейвалі. Далей зернь змяшчалася ў сасуд з растворам камедзі ("слёз вішні"), адкуль з дапамогай пінцэта ўкладвалася на выраб. Выраб праграваўся над вуглямі, клей пры гэтым выгараў, а прыпой заставаўся.



Канчатковай і самай адказнай аперацыяй з'яўлялася пайка, якая суправаджалася нагрэвам металу. Для гэтага выраб ставіўся ў горан,. абкладваўся вуглямі так, каб яны не датыкаліся да вырабу, і пры раўнамерным кругавым выдзіманні награвалі да таго часу, пакуль на яго паверхні не з'яўляўся бляск (зіхаценне) металу. Майстар тонка ўлаўліваў момант пайкі, дакладней момант зваркі дэталяў, бо найменшы перагрэў прыводзіў да аплаўлення ўсяго вырабу.

Пасля пайкі выраб кіпяціцца ў моцным растворы паваранай солі, прамываецца, сушыцца і чысціцца.

Нарыхтаваныя пацеркі нанізваліся на драцяную дужку.

Для вырабу 3 паўкольцаў, з 9 пацеркамі старажытнаму майстру патрабавалася 23 дні ў летнія месяцы. Сучасны майстар, для параўнання, на працягу аднаго светлавога дня пры дастатковым прафесійным навыку можа прарабіць адну з наступных тэхналагічных аперацый: вырабіць дрот і зернь; выкласці зерню адну пацерку; правесці пайку дзевяці пацерак; вырабіць два каркасы пацерак.



Усё гэта даказвае тое, што масавасць вытворчасці зярнёных вырабаў была выключанай і кошт іх быў вельмі высокі. Несумненна, кожны майстар у старажытнасці ішоў сваім шляхам, меў свае сакрэты і сваю тэхналогію. Усе дасягненні залежалі ад яго цярплівасці, уседлівасці, кемлівасці і назапашанага папярэднікамі вопыту.

Пацерка, якая ўваходзіла ў састаў скроневага кольца з Бярэсця, не мае абсалютна ідэнтычных аналогій сярод усходнеславянскіх знаходак. Нямала дакладных копій на заходнеславянскай тэрыторыі – у Чэхіі, Маравіі і Польшчы. У вялікамараўскіх гарадах Старым Мясце і Мікульчыцах знойдзена мноства філігранных вырабаў IX стагоддзя, выробленых мясцовымі майстрамі, аб чым сведчаць рэшткі майстэрань залатых спраў майстроў з керамічнымі тыглямі. Польскія археолагі датуюць падобныя пацеркі другой паловай X – першай паловай XI стагоддзяў, бо лічаць, што менавіта адсюль яны вядуць сваё паходжанне.

У гэты перыяд больш высокаразвітай ювелірная справа была ў заходніх славян. Менавіта ў гэты час на Русі распаўсюджваецца агульнаславянскі сканазярнёны ўбор з ціснёных упрыгажэнняў. Лёгкасці і вытанчанасці яго процістаўляліся усялякія іншыя ўпрыгажэнні.

З тэрыторыі Вялікапольшчы гэтыя вырабы распаўсюджваліся на нашы землі, сустракаюцца ў Даніі і Швецыі. Блізкім аналагам дадзенай разнавіднасці знаходак у матэрыялах Беларусі можна лічыць пацеркі з Дзягцянскага клада (1957) Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Клад датуецца прыкладна 1050 годам.

***А. РЫСІНСКАЯ,***
***загадчыца аддзела Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея***





# Побыт даўніх часоў, што ў нябыт уцяклі,

## альбо Магілёўская старасвеччына для ўсіх

***19 сакавіка 2004 года ў культурным жыцці краіны адбылася значная падзея. Наведвальнікі Магілёўскага музея этнаграфіі атрымалі цудоўную магчымасць убачыць новую экспазіцыю пад назвай “Магілёў губернскі”. З яе адкрыццём завершана шматгадовая праца па стварэнні поўнага цыклу экспазіцый, прысвечаных гістарычнаму шляху Магілёўшчыны з сівой даўніны да сярэдзіны 1940-х гадоў. Экспазіцыі традыцыйнага, класічнага, выгляду размешчаны на трох паверхах гістарычнага будынка 1770-х гадоў на Савецкай плошчы. Гэта – музейны паказ і аповед пра жыццё нашых продкаў з эпохі палеаліту да VIII–IX стст. нашай эры (аддзел “Археалогія”), аддзелы “Гісторыя краю ў IX ст. – 1917 г.” і “Наш край ад лютага 1917 па 1945 гг.”, а таксама вялікая экспазіцыя “Прырода краю”. Усе гэтыя экспазіцыі пабудаваны па храналагічным і тэматычным прынцыпах. Яны ўяўляюць сабой, найперш, паслядоўны паказ падзей, якія адбываліся ў нашым краі ў кантэксце агульнагістарычнага працэсу. Музейныя рэчы, размешчаныя ў шматлікіх вітрынах і на сценах залаў, дапамагаюць уявіць сабе асобныя падзеі розных часоў, пэўным чынам раскрываюць іх змест.***

Экспазіцыі філіяла музея этнаграфіі пабудаваны па-іншаму. Яны прысвечаны выключна сацыяльнай гісторыі, побытаваму асяроддзю канкрэтных людзей, што жылі тут менавіта ў XIX ст. На першым паверсе паказана жыццё самай вялікай групы жыхароў Магілёўшчыны – сялянства, якое складала ў канцы XIX ст. больш за 90 % усяго насельніцтва. Экспазіцыя “Зямлі роднай кругавод”, адкрытая 9 снежня 1999 г., паказвае жыццё падняпроўскіх сялян праз аднаўленне гадавога цыклу народных святаў. Другі паверх, адкрыты цяпер, прадстаўляе “ажыўленую прастору” жыцця прадстаўнікоў гарадскіх саслоўяў Магілёўскай губерні. Тут рарытэты дапамагаюць гледачу нібы апынуцца “ўнутры жыцця” гараджан, якія жылі паўтара стагоддзя таму.

За “губернскі” перыяд гісторыі Магілёўшчыны тут нараджаліся і паміралі, кахалі, радаваліся і пакутавалі прыкладна пяць пакаленняў людзей, радзімай якіх была менавіта Магілёўская губерня Расійскай імперыі. Іх побыт узноўлены з дапамогай тагачасных рэчаў. Гэта дазволіла ўпершыню ў музейнай справе Магілёўскай вобласці ўбачыць максімальна прыбліжанае да рэальнасці аблічча канкрэтнага часу. Істотна, што музей не ставіў перад сабою задачу даваць нейкія адзнакі мінуўшчыне, але толькі паказаць, якой яна была ў пэўны час у пэўным месцы.



А цяпер запрашаем у падарожжа. Праз каваныя вароты, як праз браму часу, мы ўваходзім у магілёўскую даўніну. Безумоўна, “гісторыя пачынаецца з геаграфіі”, таму перш за ўсё нас сустракае велізарная ілюстраваная карта. Сярод пышнай зеляніны на ёй пазначаны гістарычныя назвы сучасных гарадоў: Магілёў і Мсціслаў, Горкі і Шклоў, Быхаў і Прапойск, Чавусы і Чэрыкаў, Крычаў і Клімавічы, Касцюковічы і Хоцімск, Краснаполле... А побач і Талачын з Рагачовам. Так, межы губерні калісьці былі значна большымі, чым зараз. Магілёўская губерня Расійскай імперыі праіснавала (з нязначнымі перапынкамі) амаль паўтара стагоддзя, з 1772 па 1917 гг., і ўключала тэрыторыю ад Оршы да Гомеля. Яе плошча складала амаль 45 000 кв. кіламетраў (зараз наша вобласць мае плошчу 29 000 кв. кіламетраў). Па дадзеных перапісу 1897 г. тут было 1 686 764 жыхароў (на 1 студзеня 2004 г. колькасць насельнікаў вобласці склала 1 169 000 чалавек).

Наша падарожжа па экспазіцыі пачынаецца, як і было калісьці, ад паласатага верстаслупа і выявы Чарнігаўскай мураванай брамы, адной з пяці, што былі ўзведзены на мяжы XVIII–XIX стст. Крыху ўперадзе, на фоне магілёўскага пейзажу, узвышаецца знакавая тагачасная фігура – гарадавы ў сваёй прыкметнай форме. Дарэчы, па законах імперыі пакой кожных 500 гараджан павінен быў захоўваць адзін “вартавы парадку”: у Магілёве іх было 108 чалавек.

У першых залах размешчана разнастайныя матэрыялы з агульнымі звесткамі пра Магілёўскую губерню. Найперш тут экспануецца тагачасная карта, дзе пазначаны ўсе населены пункты. Побач з ёй змешчаны і каляровыя выявы гербаў губерні, Магілёва, усіх павятовых гарадоў краю.

Асобная зала прысвечана губернскаму і гарадскому кіраванню краем, размешчаны планы гарадоў і мястэчак, копіі архіўных дакументаў, мноства фотаздымкаў розных асоб і мясцін. Асобы, якія кіравалі краем ад імя імператарскай улады, прадстаўлены партрэтамі найбольш значных з 30 магілёўскіх губернатараў: А. П. Беклямішава, А. С. Дамбавецкага, Н. А. Зіноўева, М. М. Клінгенберга. Уяўленне пра асабістае жыццё прадстаўнікоў розных саслоўяў даюць шматлікія асабістыя дакументы.

Уваходзячы ў наступную залу, мы нібы трапляем на адну з магілёўскіх вуліц. У цэнтры размешчана галоўнае “СМІ” XIX ст. – рэкламная тумба, рэканструяваная па тагачасных фотаздымках. На ёй змешчаны шматлікія аб'явы і афішы. Сярод іх – абавязковыя пастановы гарадской Думы (аб санітарным стане водаправода, аб яздзе на веласіпедзе, аб месцах, дзе забараняецца піць гарэлку, аб фальшывых грошах і г.д.). Тут шмат рэкламных лісткоў банкаў, крам, гасцініц, пахавальных кантор. Побач – запрашэнні ў электратэатры “Чары” і “Мадэрн”, на спектаклі народнага тэатра. З афіш можна даведацца, што калісьці ў гарадскім садзе гастраляваў румынскі струнны аркестр, а ў рэстаране пры гасцініцы “Брыстоль” іграў дамскі балалаечны аркестр.

У левым баку залы – вялізны макет з панарамай цэнтральнай часткі горада, зроблены з вышыні птушынага палёту. Ён нездарма выклікае асаблівую цікавасць. Дзякуючы панараме, можна ўявіць сабе, як выглядаў горад сто гадоў таму. Міжволі пачынаеш параўноўваць і сумаваць аб тым, як многа страчана на сёняшні дзень з гістарычнага мінулага Магілёва. Побач з макетам – мноства тагачасных фотаздымкаў, павялічаных да зручнага гледачу памеру, каб была магчымасць разгледзець нават невялікія дэталі. Такімі былі магілёўскія вуліцы, плошчы, завулкі, выгляд якіх змяніўся непазнавальна.

Вялікую цікавасць выклікае паменшаная копія своеасаблівага сродка тагачаснага грамадскага транспарту – магілёўская конка. З 1910 г. на ёй жыхары і госці горада маглі даехаць ад чыгуначнага вакзала праз увесь горад па Дняпроўскім праспекце да галоўнай Губернатарскай плошчы і назад.

Сярод цікавых фотаздымкаў у экспазіцыі паказана і некалькі відаў на Дняпро. Магіляўчане, якія сёння жывуць на берагах гэтай ракі, амаль і не ведаюць, што некалі тут была вялікая прыстань, дзейнічала некалькі параходных кампаній, першая з якіх узнікла ў 1835 г. У губернскія часы шмат людзей дабіраліся, напрыклад, да Оршы на параходзе за 5–6 гадзін, заплаціўшы 1 руб. за падарожжа першым класам. Да Кіева трэба было плыць звыш двух сутак. На рацэ можна было пабачыць буксірныя параходы “Меркурый” і “Сіён”, пасажырскія “Ганна” і “Леў”.

На гарадскіх вуліцах часта можна было ўбачыць і веласіпеды пад гучнымі назвамі “Трыумф” ці “Гладыятар”. Такім транспартным сродкам карысталіся дробныя чыноўнікі, служачыя, навучэнцы. Жадаючыя набывалі іх у магазінах Ж. Пасэ ці С. Сагала на Вялікай Садовай (зараз вул. Ленінская). У 1916 г. у Магілёве было каля 130 веласіпедыстаў. Вучыцца кіраваць веласіпедам трэба было ў асобных месцах, напрыклад, на Сянной плошчы (зараз пл. Леніна). Дакументы на права язды ўручаліся гарадскімі ўладамі толькі пасля спецыяльнага іспыту. У адной з вітрын экспануецца цікавае пасведчанне жыхара Магілёва Л. Ф. Апрэлева на права язды на веласіпедзе. У ім пералічаны 14 абавязковых правіл, распрацаваных гарадской думай. Зрэдку можна было ўбачыць жанчыну-веласіпедыстку, але толькі ў дачных мясцінах. На рэдкім фотаздымку – дзяўчына з веласіпедам. Гэта – дачка знакамітага генерала М. Р. Чарняева ў ягоным маёнтку Тубышкі на Кругляншчыне.



У губернскім Магілёве было шмат гандлёвых кропак. Як адзначаў сучаснік, “лавак, лавачак, ларкоў такое мноства, што міжволі здзіўляешся, адкуль хапае пакупнікоў на іх уладальнікаў”. Вось на ганак дома выйшла мяшчанка-малочніца, якая прадала свой тавар – смачнае і тлустае малако. Пераважная большасць магілёўскіх гандляроў – яўрэі. Магазіны, лаўкі ды крамы, якія ім належалі, месціліся ў асабістых дамках уладальнікаў, часам прама ў жылых пакоях. У экспазіцыі адноўлены інтэр'ер гандлярскай лаўкі купца Ф. Лібенсона, тагачасныя вітрыны “Кніжнага міру Сыркіна” і “Мастацкага фотаатэлье М. Фішмана”.

Наведвальнікі маюць рэдкую магчымасць не толькі “крочыць” па губернскай вуліцы, але і завітаць у госці да магілёўскіх абывацеляў. Першы адрас – пакой мяшчанкі. У ім з дапамогай тагачасных рэчаў увасоблены рэальны інтэр'ер гараджан сярэдняга дабрабыту. Сцены пакоя абклеены таннымі шпалерамі, драўляная падлога вымыта дабяла. У чырвоным куце – іконы, у тым ліку – самая магілёўская – “Маці Божая Магілёва-Брацкая”, пад ёй запалена лампадка. Пад керасінавай лямпай у стылі мадэрн стол з самаварам і прыладамі да чаявання. Немагчыма ўявіць сабе тагачасны правінцыйны пакой без так званай гнутай, ці “венскай”, мэблі. Канапка, крэслы, этажэрка – сапраўдныя рэчы з калекцыі музея. Па кутах пакоя стаяць масіўныя шафа і буфет са знакамітым кузняцоўскім фарфорам. Шафа для адзення, што месціцца злева, нават мае сваю цікавую гісторыю. Яе набылі непасрэдна ў Магілёве 2 лютага 1911 г. за 22 рублі. Зроблена шафа, відаць, мясцовым майстрам. Не выключана, што набылі яе ў лаўцы купца Лібенсона, якая аднаўлена насупраць мяшчанскага інтэр'ера. Люстэрка ў разной раме да швейнай машына фірмы “Зінгер” сведчаць аб занятках гаспадыні.

***Марына ТАРАСАВА***

***(Заканчэнне будзе)***

## Ліпень

24 – **Архангельскі Аляксандр Сямёнавіч (1854–1926)**, расійскі літаратуразнавец, даследчык старажытнарускай і беларускай літаратур, член-карэспандэнт Пецярбургскай АН – 150 гадоў з дня нараджэння.

24 – **Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч** (1929, Салігор. р-н – 1973), пісьменнік – 75 гадоў з дня нараджэння.

24 – **Гарбук Генадзь Міхайлавіч** (1934, Ушац. р-н), акцёр, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1966 г.), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984 г.) – 70 гадоў з дня нараджэння.

## Парады юнаму краязнаўцу

- Умацаваныя паселішчы (гарадзішчы) старажытных людзей (V ст. да н.э. – XV ст. н.э.) на Беларусі найбольш сустракаюцца на месцы ўпадзення адной рэчкі ў другую. Гэта давала магчымасць нашым продкам ўмацоўваць свае паселішча з меншымі фізічнымі намаганнямі (вада была з двух бакоў). Выкопваўся роў, насыпаўся вал толькі там, дзе не было прыродная абароны.
- Калі ўважліва даследаваць карту сваёй мясцовасці, можна заўважыць назвы населеных пунктаў, якія з'яўляюцца дакладным арыенцірам старажытных умацаваных паселішчаў: Гарадзішча, Гарадок, Горкі, Гарадзея, Гародня, Малыя (Вялікія) Горы, Агароднікі, Дворышча, Дварэц.
- Слухайце ўважліва, што расказваюць пра высокія месцы (каля злучэння рэчак) старыя людзі, якія даўно тут жывуць. Яны могуць расказаць байку пра тое, што на гэтым месцы стаяла царква, якая правалілася, альбо пра карэту з золатам – таксама правалілася, альбо "калі вухам да зямлі прыкладзешся, чуваць, як пяюць пеўні". Здаецца, на першы погляд, што гэта байкі, але ж на самой справе "народная творчасць" захавала да нашых дзён звесткі пра тое, што шмат стагоддзяў таму менавіта ў гэтым месцы нешта цікавае адбывалася.
- Капаць гарадзішча самастойна забараняецца законам. Аб усіх парушэннях яго неабходна паведамляць у Міністэрства культуры, Акадэмію навук, раённы музей і "Краязнаўчую газету".

## Канцэрт у дзень нараджэння

Спевака Зміцера Вайцюшкевіча добра ведаюць аматары беларускай эстрады. Апошнія гады ён цешыць сваіх прыхільнікаў сваімі альбомамі народных баладаў, на вершы Л. Драньько-Майсюка, А. Камоцкага. З нядаўніх праектаў – італьянска-беларуская «Bella Ciao», што складаецца з песень двух народаў. А на чарзе – вялікі канцэрт спевака, прымеркаваны да ягонага 33-годдзя. Прагучаць найлепшыя мелодыі WZ-orcestra і найлепшыя песні Зміцера.

Арганізатары імпрэзы, BMAgroup, мяркуюць, што канцэрт як заўсёды будзе аншлагавы. Для ахвочых патрапіць 20 ліпеня на дзень нараджэння раім паспяшацца ў мінскі Палац культуры ветэранаў.

Прыемны дадатак меламанам – прэзентацыя першай часткі новай праграмы на вершы Рыгора Барадуліна. Прыйдуць на канцэрт вядомыя беларускія музыкі.

**Цікава ведаць**

### Вось гэта хлопчык!

Акрыт Джасвал – з індыйскай вёсачкі. Яму ўсяго адзінаццаць гадоў, і ён запэўнівае, што зможа вылечыць чалавецтва ад рака і СНІДу. Паказчыкам каэфіцыента інтэлекту хлопчык пераўзыходзіць самога Эйнштэйна.

Ён ужо працуе. У даследчым інстытуце анкалогіі ў Мумбаі, дзе дапамагае лячыць ракавыя захворванні генетычным спосабам. А вось якім чынам адбываецца выздараўленне, пакуль што патлумачыць не можа.

Геніяльнасць Акрыта прызнана ўжо амерыканскім цэнтрам вывучэння і адкрыцця адоранасці.

### Ёсць спосаб падоўжыць жыццё да 180 гадоў

Сенсацыйнае адкрыццё зрабілі амерыканскія вучоныя – яны выявілі пратэін, які здольны значна павялічыць працягласць жыцця.

Аказалася, што ў экстрэмальных сітуацыях – напрыклад, пры галаданні – арганізм млекакормячых пачынае выпрацоўваць асаблівы бялок. Ён раскрывае крызісны патэнцыял арганізма і, у прыватнасці, стварае ўмовы для падаўжэння тэрміну жыцця сама меней на 50 працэнтаў.

Ухходзе рэвалюцыйных доследаў вучоных з Масачусецкага тэхналагічнага універсітэта ў мышэй былі выяўлены адмысловы ген, які адказваў за сінтэз "пратэіну жыцця". Даследчыкі лічаць, што аналагічны механізм дзейнічае і ў арганізме чалавека. У выніку амерыканскія вучоныя абяцаюць ужо ў самы бліжэйшы час стварыць тэхналогію, якая дазволіць падоўжыць жыццё чалавека да 180 гадоў. А пакуль яны раяць жадаючым самім актывізаваць "пратэін жыцця" з дапамогай умеранага галадання.

### Алені плямістыя, бараны грывастыя

У Гродзенскім заапарку нарадзілася больш за паўсотню дзіцянят розных жывёл. Дзякуючы добраму дагляду з'явіся тут у чарговы раз патомства ў плямістых аленяў. Двойчы атрымалі ягнят ад парачкі грывастых баранаў. Гэта рэдкі від жывёл, занесены ў Чырвоную кнігу, а таму маладыя самцы, па словах дырэктара заапарка Цаліны Пагерыла, хоць і каштуюць 700 тысяч рублёў, цэняцца ж на вагу золата.

*(Паводле матэрыялаў друку)*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**Аўтапартрэт** (ад грэч. сам + партрэт) – выява мастака, зробленая ім самім, звычайна пры дапамозе люстэрка, разнавіднасць партрэтнага жанру. Аўтапартрэт паказвае вонкавае падабенства, а таксама адлюстроўвае ўнутраны свет мастака, сутнасць яго характару.

У беларускім мастацтве ў жанры аўтапартрэта працавалі многія мастакі: Ф. Смуглевіч, І. Пешка, В. Ваньковіч, Я. Дамель, Н. Сілівановіч, К. Альхімовіч (XIX ст.), Ю. Пэн, Я. Кругер (пачатак XX ст.). Пазней – І. Ахрэмчык, П. Гаўрыленка, Г. Вашчанка, Я. Зайцаў, П. Масленнікаў і інш. Часамі мастакі дадаюць да аўтапартрэта пэўнае прадметнае акружэнне ці пейзаж (аўтапартрэты Л. Дударанкі, У. Мінейкі, "У майстэрні" Р. Кудрэвіч). М. Савіцкі ў аўтапартрэце стварыў абагульнены вобраз вязня фашызму (з серыі "Лічбы на сэрцы"). Бывае, мастак спалучае аўтапартрэт з тэматычнай карцінай (Л. Шчамялёў, Г. Вашчанка, М. Селяшчук).

**Аўтар** – стваральнік мастацкага ці публіцыстычнага твора, навуковага даследавання, праекта і інш. Асоба ці асобы, названыя на тытульным лісце кнігі, брашуры і г.д.

Аўтарства як з'ява ўзнікла ў даўнія часы як вынік гістарычнага развіцця культуры і азначае розныя (юрыдычныя, эканамічныя, псіхалагічныя і інш.) адносіны да твора як да ўласнага, асабіста створанага. Адначасова ў творы выяўляецца і духоўны вопыт іншых людзей, народа, усяго чалавецтва. Суадносіны асабістага і калектыўнага ў ім – зменная велічыня, абумоўленая канкрэтна-гістарычным тыпам грамадскіх адносін. У архаічных культурах аўтарытэт пераважае значэнне аўтарства: найбольш значныя творы прыпісваліся гістарычным ці легендарным асобам і выступалі як сімвал палітычнага, рэлігійнага фактару. Гэтая тэндэнцыя характэрная і для пазнейшых перыядаў грамадска-палітычным рэжымам таталітарнага складу. Юрыдычна аўтарства сфарміравалася ў эпоху Адраджэння і ўсебакова развілося пазней. Устанаўленнем аўтарства ананімных твораў (атрыбуцыя) займаецца тэксталогія. На аўтэнтычнасць аўтарскага тэксту моцна ўплываюць цэнзурныя скажэнні, неаўтарызаванае рэдагаванне.

У гісторыі беларускай літаратуры засведчыліся многія формы аўтарства, пачынаючы з ананімных ці калектыўных твораў сярэдневяковага мастацтва. Апошняе асабліва шырока прывілося ў народным фальклоры, а таксама і ў тагачасных літаратуры, музыцы, мастацтве (летапісы, апокрыфы, іканапіс і інш.). Аўтарства выразней афармілася ў эпоху Адраджэння, барока і класіцызму (творчасць Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Полацкага) у аўтарскіх подпісах, эмблемах, прадмовах, каментарыях, у адметнасцях аўтарскага стылю.

У XIX – пачатку XX ст. высока развілося індывідуальнае аўтарства (Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч і інш., а таксама і ў нацыянальнай школе выяўленчага мастацтва). Знаходзячыся доўгі час пад уціскам паланізацыі, русіфікацыі і праследавання, многія беларускамоўныя аўтары мусілі хавацца за псеўданімы. У 1920–1930 гады літаратура і мастацтва зведалі пэўныя эксперыменты, у тым ліку і па замене індывідуальнага аўтарства калектыўным, але пазней ад гэтай утапічнай ідэі пачалі адмаўляцца.

**Аўтарская мова** – асаблівасць моўнай структуры літаратурнага твора, з якой голас аўтара гучыць надзвычай свежа, моцна і непаўторна. Яна залежыць ад індывідуальных асаблівасцей таленту пісьменніка і займае ў ягонай творчасці рознае месца. Тыя, хто піша лірычную прозу (напрыклад, Янка Брыль), карыстаюцца ёю часцей і на большую моц, чым эпікі і аўтары драматычных твораў.

Аўтарская мова можа ўжывацца рэдка і непадкрэслена, выяўляецца ў рэмарках, апісаннях, лірычных і публіцыстычных адступленнях і г.д., а можа ахопліваць увесь тэкст цалкам, аж да мовы персанажаў.

У ладзе аўтарскай мовы, яе лексіцы і сінтаксічнай будове асабліва выразна раскрываецца пэўная аўтарская ацэнка таго, што паказваецца ў літаратурным творы. У сучаснай беларускай прозе аўтарская мова, бывае, спалучаецца з мовай персанажаў і асабліва не вылучаецца, паказ пераважае над выкладаннем.

**Аўтарызаваны пераклад** – пераклад твора на іншую мову, калі ў гэтай справе самы актыўны ўдзел бярэ і аўтар (вычытвае, рэдагуе). Аўтарызацыя спрыяе лепш перадаць не толькі змест, але і нацыянальныя, індывідуальныя асаблівасці стылю арыгінала, дапамагае аўтару, калі ён валодае мовай, на якую робіцца пераклад, павысіць мастацкі ўзровень перакладу.

Вельмі сур'ёзна да справы аўтарызацыі перакладаў сваіх твораў падыходзілі Я. Купала і Я. Колас (вершы і паэмы), А. Куляшоў ("Новая кніга"), І. Мележ ("Палеская хроніка"), В. Быкаў (усе творы).

**Хлопчыкі – будучыя лётчыкі**



### Аўтазаводцы за аўтарскія песні

Што гэта так, высветлілася падчас І гарадскога фестывалю аўтарскай песні, які адбыўся ў Палацы культуры Мінскага аўтазавода. Лаўрэатам фестывалю стала мастачка, а таксама выкладчык тэатральных дысцыплін, рэжысёр тэатра Алена Свечнікава. Дыплом І ступені ўручылі студэнту Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта (БНТУ) Аляксандру Барташэвічу, дыплом ІІ ступені – студэнту гэтага ж універсітэта Цімафею Скарэнку. Дыпламантам стаў урач-рэнтгенолаг Георгій Тучкоўскі. Парадаваў публіку і дуэт "Ірыоль" Вольгі і Ірыны Катовіч.

Наступны фестываль стартуе сёлетняй восенню.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г. Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары дасылаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 08. 07. 2004. Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.) Заказ 1055. Тыраж 1050.